# Наша сям'я

Згадзіцеся, сябры: колькі б у нас ні было цудоўных сяброў, якім бы дружным ні быў наш клас альбо якой бы суперскай ні была наша тусоўка ў двары, ёсць калектыў для нас заўсёды найважнейшы. Гэта — наша сям'я. У кожнага яна свая, асаблівая. Калі нам добра ў ёй, то і ўсюды будзе добра. Калі нам у ёй горка, то і ўсюды, куды б мы ні пайшлі, будзе непамысна.

У Езуса была цудоўная сям'я. У ёй Яго любілі, шанавалі, а Ён, у сваю чаргу, моцна любіў Маці Божую і святога Юзафа. Таму гэтая сям'я для нас святая. Таму праз тры дні пасля Божага Нараджэння мы святкуем урачыстасць Святой Сям'і.

А якія нашыя сем'і? Ці падобныя яны да Святой Сям'і? Ці любім, ці паважаем, ці шануем мы адзін аднаго ў сваіх сем'ях?

*Пане Езу!*
*Ты меў цудоўную сям'ю.*
*Памажы нам жыць так,*
*каб нашыя сем'і*
*таксама былі*
*да Тваёй*
*падобныя.*

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

*Малюнак Ангеліны Сержан, 15 гадоў.*



# Ці ўмеем дзякаваць?

— Што ж лягчэй? — запытае хтосьці. — Далі табе штосьці добрае, смачнае, і ты яму падзякаваў!

Яно ж так, але ці ўмеем мы быць удзячныя заўсёды маме і тату за сваё жыццё? Ці ўдзячныя бабулі і дзядулю за тое, што яны выгадавалі нашых тату з мамай? Ці ўдзячныя настаўнікам за тое, што яны дзеляцца з намі тым, што самі спазналі? Ці ўдзячныя святару за тое, што ён стаў святаром, каб служыць Богу і нам? Ці ўдзячныя Езусу за тое, што Ён прыйшоў на свет не магутным, непрыступным валадаром, а маленькім Дзіцем і тым самым стаў для нас блізкім і зразумелым?

*Дарагі наш Дзіцятка Езус!*
*Мы ідзем у гэтыя сцюдзёныя*
*калядныя дні, каб сустрэць Цябе*
*ў Бэтлеемскай стаенцы.*
*Хочам любіць Цябе так,*
*як любіла Цябе Марыя, Твая Маці.*
*Служыць хочам Табе,*
*як служыў святы Юзаф.*
*Спяваць хочам Табе,*
*як спявалі анёлы ў Бэтлееме.*
*Любіць прагнем Цябе так,*
*як Ты палюбіў нас!*

*А. Барткевіч*

*Малюнкі Ангеліны Сержан, 15 гадоў.*



*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 4 (66)/2014 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.*
*220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Касцёльны кансультант — кс. Дзмітрый Пухальскі, рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2; **e-mail:** m.rycar@yandex.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 3 500 экз. Заказ № 8723.
Падпісана да друку 15.12.2014 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/0494165 ад 03.04.2009 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.

Уладзімір Сіўчыкаў

# Калядны ліст

Святы Мікола!
Шлю Табе вітанні!
Завуць Цябе яшчэ Мароз-Дзядуля,
Чакаюць нецярпліва віншаванняў,
Дарункаў дзеці,
Іх матулі і татулі.

Усе,
Хто паслухмяны і старанны,
Хто волю меў на добрыя учынкі,
Хто да старэйшых ставіўся з пашанай —
На святы Ты не маеш адпачынку.



Як вырасту,
Дык добрай чараўніцай
Зрабіцца, як і Ты,
Была б я рада,
Стаць весялосці, радасці крыніцай,
Прыносіць шчасце,
Асабліва на Каляды.

Я ведаю,
Што часта просяць дзеці
Пакласці ім пад ёлку тэлефоны
Мабільныя, найноўшыя у свеце,
Кампутары,
Планшэты
І айфоны.

Ў мяне ўсё ёсць —
Мне не нясі нічога!
Хай возьме падарунак мой дзяўчынка
Ў дзіцячым доме
З блаславеннем Бога.
Зрабі, як я прашу.

Твая Хрысцінка.

*Малюнак Насці Каліноўскай, 12 гадоў.*

*«Інтэрв'ю» са святым Мікалаем*

# ЧАКАЙЦЕ, СЯБРЫ!



*— Святы Мікалай, ты добра ведаеш, што напрыканцы кожнага года мы ўсе цябе вельмі любім і вельмі чакаем.*

— Не сумняваюся, Яська, не сумняваюся...

*— Не, любім мы цябе заўсёды...*

— Таксама не сумняваюся, хе-хе...

*— Ну што ты, святы Мікалай, смяешся? Не адзін я чакаю цябе, а ўсе дзеці. Ты ж і сёлета не спознішся?*

— А калі гэта я спазняўся? Як заўсёды, 6 снежня чакайце-выглядайце... А як запросіце, то можа й на Божае Нараджэнне завітаю...

*— Вядома! Якія ж Каляды без цябе! А ты заўсёды ж прыходзіш? І пад ёлку ў хаты нашы, і ў касцёл?*

— Хто чакае — той дачакаецца.

*— Пра цябе нават сам Дантэ Аліг'еры пісаў, як ты падкінуў грошы беднай дзяўчыне, каб яна магла выйсці замуж.*




— Было-о...

*— А што, скажы, там за гісторыя была з вязнямі?*

— А-а-а... Трох хлопцаў кароль Канстанцін І асудзіў на смерць. Давялося прасіць за іх. Ну і ўдалося! Шчаслівыя былі-і-і...

*— Во як! А мы больш ведаем пра цябе як пра шчодрага раздатчыка цукерак!*

— А таму што гэта больш прыемны занятак! Добра, загаварыў ты мяне, Яська, а мне мех свой рыхтаваць трэба! Словам, чакайце, сябры, і я наведаю вас!

*Гутарыў Яська Запытальнік*

# ПАШТОЎКА «ЖАДАНЫ ГОСЦЬ»



Спатрэбяцца: белы і чырвоны кардон, кавалак пенапласту, нажніцы, празрыстая папера, клей.

Выраж формы, можаш іх павялічыць. Кружок А — твар — прыклей на кружок В. Форму барады (мал. 1) накалі іголкай. Найлепш гэта рабіць на пенапласце. Ніз барады парэж на пасмы, прыклей бараду на твар, намалюй вочы, вусны, шчокі. Форму (мал. 2) накалі таксама і наклей на ніз плашча.

**Увага:** бараду Мікалаю можна таксама зрабіць з кавалка футра.




Твой святы Мікалай можа быць упрыгожаннем ёлкі, святочнага стала, а можна яго наклеіць на прыгожы кардон, і ён стане святочнай паштоўкай. Можаш такой паштоўкай нават наш часопіс павіншаваць





## Старонка «божых каровак»

# ЯК НЕ ЗАБЛУДЗІЦЦА?

Нядаўна мы з сяброўкамі гулялі па зімовым лесе. Заўважу, гэта няпраўда, што ён без лістоты можа здацца сумным і нецікавым. У лесе цікава ў любую пару! Гэта кажу вам я, «божая кароўка»! Адно што, у любую пару года нам трэба быць пільнымі ў лесе. Каб не згубіцца, не заблудзіцца. А дзеля гэтага трэба проста ведаць, што арыентавацца на мясцовасці нам дапамагае... сам лес.

Прыглядваючыся ўважліва да дрэваў, камянёў, карчоў, мы зможам вызначыць кірункі бакоў свету. А для гэтага трэба ведаць, што:

— *мохам абрастае заўсёды паўночны бок дрэваў і камянёў;*
— *гадавыя колцы на пні заўсёды звужаюцца ў напрамку на поўнач;*
— *мурашнік больш спадзісты на паўночным баку;*
— *адзінокія дрэвы маюць моцна развітыя галіны з паўднёвага боку;*

Пастарайцеся, сябры, запамятаць гэтыя няхітрыя прыкметы, і тады вы будзеце адчуваць сябе ў лесе больш упэўнена.

*Ваша сяброўка «божая кароўка».*











## Старонка ваўчанятаў



# Хутка Каляды!

Прывітанне, сябры!

З вамі зноў ваўчаня Спрыт і ваўчаня Адважны.

— Спрыт, хутка набліжаюцца Каляды! А што для цябе найважней у свята Божага Нараджэння?

— Ну як што, Адважны? Гэта — калядкі, паштоўкі, забаўляльныя тэлеперадачы, ну і, канешне, падарункі!

— Ох, Спрыт, нахапаўся ты сучасных штучак! А падумай пра першае Божае Нараджэнне. Чаму яно дагэтуль такое важнае для нас? Ну, што ты прыціх? Бо не задумваўся раней?

У гэты дзень нарадзіўся Езус! І няма большай радасці на Каляды, чым сустрэцца з Ім! Калі мы думаем толькі пра падарункі на Божае Нараджэнне, то гэта прывядзе нас да расчаравання. Крамы, упрыгожванні, забаўляльныя рэчы — усяго гэтага сапраўды шмат, і ўсё так блішчыць... Але часам яно так моцна блішчыць, што, як кажа мая бабуля, ажно сэрца баліць.

— І чаго яно табе там ужо баліць?

— Бо самае галоўнае на Каляды — сустрэча з Езусам! І гэта незалежна ад таго, што ты знойдзеш пад ёлкай!

Дарэчы, Спрыт, Езус нарадзіўся ў няпростых абставінах. Ці ведаеш гэта? Калі не, звярніся да Евангелля ад Лукі (Лк 2, 1–7) і параўнай з тым, як нарадзіўся ты. Запрашаем і нашых чытачоў далучыцца!

2

| | Я | ЕЗУС |
|---|---|---|
| Горад альбо вёска, дзе нарадзіўся | | |
| Месца, дзе нарадзіўся (будынак) | | |
| Дзіця адзелі ў... | | |
| Прыйшлі наведаць | | |
| Падарункі, якія атрымаў | | |

4

А ці ведаеце вы, сябры, што анёл сказаў пастухам?
Мы зашыфравалі ягоныя словы. Паспрабуйце разгадаць:

| А | Б | В | Г | Д | Е | Ё | Ж | З | І | Й | К | Л | М | Н | О | П | Р | С | Т | У | Ў | Ф | Х | Ц | Ч | Ш | Ы | Ь | Э | Ю | Я |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ! | @ | # | $ | % | ^ | & | * | ? | \ | [ | ~ | | | < | + | = | - | { | ;; | ss | qq | x | :: | > | / | } | ( | ) | № | ‘ | « | » |

+^ @=[/^;;» , » !@# »(}! « #!< #»|\~qq« {!%!;;/№ , »~! » @qq%?^
%|» x;; »$= +!{=%! , @= +!{!%?\x;; » #!< ;;&++ » x $={!%?^ %!#\%!
?@!x/! , »~\ &;;/№ >{);;ssqq;; -!+ .



# Кожны можа





Усім вядома, што канікулы — надзвычай важная пара для вучняў. Як мы іх праводзім? Можна, вядома, адляжацца напоўніцу на адным, а потым на другім баку. Можна набегацца, каб кожнага вечара звальвацца ў сон, як у прорву. Можна цікава падарожнічаць і потым доўга распавядаць сябрам пра свае шляхі-дарогі. А можна нікуды не ехаць, а... прыйсці ў касцёл. І калі там адбываюцца «Канікулы з Богам», то гэты час можа стаць надзвычай цікавым.

Падчас восеньскіх канікулаў у парафіі святой Барбары ў Віцебску прайшлі сустрэчы для дзяцей малодшага школьнага ўзросту. На працягу пяці дзён дзеці вучыліся сябраваць адзін з адным і праводзіць вольны час у Божай прысутнасці. Галоўнай тэмай сустрэчаў стала святасць. Напэўна ж, многія чулі, што кожны з нас можа стаць святым. Можа! Калі толькі моцна таго пажадае. Таму дзеці разважалі пра важныя крокі на шляху да святасці: малітву, Эўхарыстыю, Божае слова, са-







# стаць святым!

крамэнт споведзі, учынкі любові і міласэрнасці.

Радасцю для ўсіх стаў нечаканы візіт ксяндза біскупа Алега, які благаславіў дзяцей ды пажадаў кожнаму стаць святым і заўсёды радасным. Напрыканцы канікулаў будучыя святыя сабраліся на ўрачыстай святой Імшы, на якой дзякавалі Езусу за «Канікулы з Богам». Прыгожым плёнам гэтага незвычайнага тыдня стала выстава малюнкаў. Юныя мастакі (хтосьці паасобку, а хтосьці па двое ці трое) малявалі касцёлы Віцебска і партрэты святых, з якімі яны пазнаёміліся ў гэтыя дні.

З радасцю дзелімся сваімі ўражаннямі і творамі з чытачамі «Маленькага рыцара Беззаганнай». А малюнкі юных мастакоў з Віцебска можна ўбачыць у гэтым нумары, у «Галерэйцы».

*Алеся Вайцяховіч, Кацярына Цыганова.*
*Фота Валянціны Аўсяннікавай.*



| | Студзень | | | | | Люты | | | | Сакавік | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| нд | | 4 | 11 | 18 | 25 | 1 | 8 | 15 | 22 | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| пн | | 5 | 12 | 19 | 26 | 2 | 9 | 16 | 23 | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| ат | | 6 | 13 | 20 | 27 | 3 | 10 | 17 | 24 | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| ср | | 7 | 14 | 21 | 28 | 4 | 11 | 18 | 25 | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| чц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | 5 | 12 | 19 | 26 | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| пт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | 6 | 13 | 20 | 27 | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| сб | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | 7 | 14 | 21 | 28 | 7 | 14 | 21 | 28 | |

1.01 – Святой Багародзіцы Марыі; 6.01 – Аб'яўленне Пан
11.01 – Хрост Пана; 18.02 – Папялец; 19.03 – Святога
Вялікдзень; 14.05 – Унебаўшэсце Пана; 24.05 – Спасланн
31.05 – Найсвяцейшай Тройцы; 4.06 – Найсвяцейшага Цела
29.06 – Святых Пятра і Паўла апосталаў; 15.08 – Унебаўзя
шай Панны Марыі; 1.11 – Усіх Святых; 29.11 – Першая ня
8.12 – Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны М
Нараджэнне Пана.

| | Ліпень | | | | | Жнівень | | | | | | Верасен | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| нд | | 5 | 12 | 19 | 26 | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | | 6 | 13 | 20 | 2 |
| пн | | 6 | 13 | 20 | 27 | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | | 7 | 14 | 21 | 2 |
| ат | | 7 | 14 | 21 | 28 | | 4 | 11 | 18 | 25 | | 1 | 8 | 15 | 22 | 2 |
| ср | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | | 5 | 12 | 19 | 26 | | 2 | 9 | 16 | 23 | 3 |
| чц | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | | 6 | 13 | 20 | 27 | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| пт | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | | 7 | 14 | 21 | 28 | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| сб | 4 | 11 | 18 | 25 | | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | | 5 | 12 | 19 | 26 | |



| Красавік | Май | Чэрвень | |
|---|---|---|---|
| 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | НД |
| 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | ПН |
| 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | АТ |
| 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | СР |
| 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | ЧЦ |
| 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | ПТ |
| 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | СБ |

на (Тры Каралі);
Юзафа; 5.04 –
е Духа Святога;
і Крыві Хрыста;
цце Найсвяцей-
ядзеля Адвэнту;
Марыі; 25.12 –

# 2015

*Каляндар ілюстравалі юныя мастакі:*
*Насця Каліноўская,*
*Вікторыя Сініцына,*
*Аляксандра Сухаварава,*
*Міхась Свірскі.*

| …нь | Кастрычнік | Лістапад | Снежань | |
|---|---|---|---|---|
| 7 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | НД |
| 8 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | ПН |
| 9 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | АТ |
| 0 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | СР |
| | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | ЧЦ |
| | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | ПТ |
| | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | СБ |



*...даспадобы Яму той, хто баіцца Яго і наступае справядліва.*

Дзеі Апосталаў (10, 35)

Ірына ЖАРНАСЕК

# Што даражэй?

Усё ўрэшце атрымалася добра, і цяпер Паўлінка можа ўздыхнуць спакойна. Усё выйшла так, як яна хацела. Яшчэ ўчора дзяўчынка сумнявалася і шмат разоў паўтарала тое, што прыдумала сказаць класнаму кіраўніку Наталлі Пятроўне і Дзеду Марозу. Праўда, Дзед Мароз таксама настаўнік, фізкультуру ў іх праводзіць, але ўжо два гады ён для Паўлінкі напрыканцы года найперш Дзед Мароз з чырвоным носам. Разам з ім Паўлінка «працуе» Снягуркай на навагодніх ранішніках.

Толькі для недасведчаных гэтая праца лёгкая ды вясёлая. Для іх жа — гэта пот, што струменьчыкамі сцякае па спіне пад атласным адзеннем, і суцэльныя трывогі: каб жа не забыцца словы, каб не пераблытаць, калі гукаць: «Ёлачка, засвяціся!», каб не даць па два падарункі ў адны рукі, як гэта здаралася неаднойчы. Гэтых «каб» вельмі шмат. Тыя, што весела гарлаюць на ранішніках, нават і не падазраюць пра іх.



І ўсё ж Паўлінцы падабаецца гэтая роля. Яе ў снежні ды студзені найчасцей і завуць не Паўлінкай, а Снягуркай. Ды вось ужо некалькі дзён дзяўчынка аб адным толькі думала — як ёй ад усяго гэтага пазбыцца на 24 і 25 снежня. Ведала, што для яе настаўнікаў гэтыя дні нічога не азначаюць, бо іх Паўлінка ніколі не сустракала ні на Пастэрцы ў касцёле, ні на сустрэчы са святым Мікалаем, ні тым больш на Імшы ў нядзелю.

Але як добра ўсё прадумаеш, то





й атрымаецца выдатна. У Паўлінкі быў вельмі сумны твар, калі яна казала настаўнікам, што ёй трэба разам з бацькамі паехаць на два дні праведаць хворых сваякоў.

Ёй паспачувалі, разам з ёй пабедавалі ды перанеслі вечарыну і ранішнік на іншы час. Усё выйшла як найлепш, і Паўлінка 24 снежня бегма неслася дахаты — на Куццю.

Разам з мамай яна збірала на стол, бегала па сена, не забылася паставіць талерку для нечаканага госця, які, вядома ж, ніколі не прыходзіць, прыбірала ёлку. Потым яны ўсе разам чакалі першую зорку, спявалі калядкі, дзяліліся аплаткамі і жадалі, жадалі... Усяго гэтага не заменіць ніякая вечарына ці ранішнік з Дзедам Марозам!

...Калі пасля Пастэркі Паўлінка разам з дзецьмі ўкленчыла пры яслях з маленькім Езусам, адразу ж ціхенька падзякавала Яму за тое, што яна ў гэтыя хвіліны ў касцёле, а не на навагодняй вечарыне. Хтосьці крануў дзяўчынку за плячо, і яна азірнулася. Побач з ёй на каленях стаяў... Віктар Паўлавіч, іх фізрук, ён жа — Дзед Мароз. Паўлінка адкрыла рот ды так і не змагла вымавіць слова, а ён шапнуў:

— Са святам, Снягурка! З Божым Нараджэннем!

— Вас... таксама... — ледзьве выціснула з сябе Паўлінка, і ёй чамусьці раптам захацелася заплакаць.

З касцёла яны выйшлі разам, прыпыніліся на ганку. У Паўлінкі гарэлі вушы так, нібы іх нацерлі сняжкамі. Яна маўчала. Не спяшаўся адзывацца і Віктар Паўлавіч. Выручыў Данік, які гукнуў Паўлінцы на вуха:

— Заўтра не праспі! Святы Мікола прыедзе з мехам!

— А заўтра калі пачатак набажэнства? — запытаў Віктар Паўлавіч.

— А дванаццатай, — шапнула Паўлінка.

Ён усміхнуўся і падаў дзяўчынцы руку:

— Ну то што, да заўтрага, Снягурка!

А Палінка, гатовая вось-вось расплакацца, чамусьці сказала зусім не тое, што ўжо прыдумала ў сваё апраўданне:

— Я... Мне вельмі хацелася тут быць... Прабачце...

— Зразумела, — коратка згадзіўся Віктар Паўлавіч. — Я, можна сказаць, нават удзячны табе, бо і сам пабыў у касцёле. Упершыню. Падумаў, што калі вечар вольны, то можна паглядзець, як вернікі святкуюць.

— Дык прыходзьце яшчэ, — пасмялела Паўлінка.

Яе паклікала мама, і яна, выціскаючы з сябе кожнае слова, сказала:

— Я ведаю... маніць нельга... Але не змагла я прыдумаць нічога іншага...

Віктар Паўлавіч уздыхнуў:

— Вядома, праўда бывае часам вельмі цяжкай, падман жа, наадварот, — нібы пух. Але гэта толькі спачатку. А потым усё памяняецца раптам месцамі... І тады думаеш — а што мне даражэй?

Назаўтра Паўлінка пабегла ў касцёл трохі раней, каб паспець паспавядацца. Адыходзячы ад канфесіянала, яна сустрэлася позіркам з Віктарам Паўлавічам, які стаяў непадалёк. Дзяўчынка падышла да настаўніка і шапнула:

— Віктар Паўлавіч! Наш ксёндз сказаў, што хоча з вамі пазнаёміцца.

— Я таксама! — радасна заўсміхаўся настаўнік і ціха дадаў. — Дзякуй!

*Мастак — Вольга Чарняўская.*



# ЕЗУС У СЭРЦЫ



Ці бачылі вы калі, сябры, агромністыя машыны – «БелАЗы»? Калі нават высокі чалавек стане побач з такой машынай, ён раптам пачынае выглядаць зусім маленькім. Магутныя «БелАЗы» ствараюць у Жодзіне.

А Дзіна Маланкова, якая таксама жыве ў гэтым горадзе, пакуль што яшчэ невялікая. Ёй сем гадоў. Ды затое Дзіна мае вялікае і добрае сэрца. «Адкуль мы гэта ведаем?» – мабыць, цікава вам. Бо Дзіна даслала нам свой малюнак на конкурс «Мая малітва». А называецца ён «Езус у маім сэрцы». Дык хіба ж можа маленькае і нядобрае сэрца мецьу сабе самога Езуса?



А яшчэ Дзіна любіць свой горад, сваю сям'ю і сяброў. Цяпер жа мы ведаем, што Дзіна любіць яшчэ і наш часопіс. І таму нас з ёю таксама можна лічыць добрымі сябрамі.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*




Пачатак публікацыі ў № 1 (55) за 2012 год.

# Эўхарыстычная малітва

**...Гэта чыніце на Маю памяць.**
Лк,22,19б

Пасля таго, як на алтары хлеб і віно ператварыліся ў Цела і Кроў Хрыста, мы прамаўляем таямніцу нашай веры:

— Абвяшчаем смерць Тваю, Пане Езу, вызнаем Тваё ўваскрасенне і чакаем Твайго прыйсця ў хвале.







Напрыканцы Эўхарыстычнай малітвы святар, узняўшы над алтаром патэну з Гостыяй і келіх, прамаўляе хвалу Пану Богу:

— Праз Хрыста, з Хрыстом і ў Хрысце, Табе, Божа, Ойча ўсемагутны, у еднасці Духа Святога ўся пашана і хвала праз усе вякі вечныя.

Народ адказвае:

— Амэн.

*Гэтым словам заканчваецца Эўхарыстычная малітва і пачынаецца абрад Камуніі.*





## ЗАГАДКІ З БІБЛІІ

5

Сябры! На гэты раз у мяху святога Мікалая разам з падарункамі былі цэлыя прыгаршчы пытанняў. Яны не надта складаныя, хоць той-сёй з вас наракае, што нашыя загадкі лёгкія. Маргарыта Ясэпкіна з Полацка, напрыклад. Мы рады, што некаторыя з вас шмат ведаюць і шмат чым цікавяцца. Таму прапануем і вам самім паспрабаваць складаць галаваломкі, рэбусы, крыжаванкі. Мы з радасцю будзем прапаноўваць іх усім чытачам. **А зараз пытанні:**

- Хто сказаў будучаму бацьку Захарыю, што ў ягонай жонкі народзіцца сын? (Лк, 1)
- «Я хрысціў вас вадою, а Ён будзе хрысціць вас Духам Святым», — гукаў .. ..........
- Якую вопратку насіў Ян Хрысціцель?
- Якія стравы еў Ян Хрысціцель?
- Як думаеце, навошта кароль Ірад шукаў маленькага Езуса?
- А чаму Яго шукалі мудрацы?
- Пра каго казаў прарок Ісая: «...над жыхарамі краіны смяротнага ценю заззяла святло»? Якое гэта святло?
- Эммануэль... Хто гэта? Чаму Яму далі такое імя?

*Сябры! Калі вы разам са сваімі адказамі прышлеце нам і малюнак на тэму хоць бы аднаго пытання, мы будзем вельмі рады* 🙂

Адказы на **Загадкі, змешчаныя ў № 3 за 2014 г.**

**«Загадкі з Бібліі»**

Бо ў Ружанцы мы ўзгадваем падзеі, апісаныя ў Бібліі; «Нараджэнне Езуса Хрыста» (Мц 1, 18—25; Лк 2, 1—19); 2 лютага, Ахвяраванне Пана; Папа Рымскі Ян Павел ІІ; «Малітва Езуса ў Садзе Аліўным»; «Хвалебная», бо ў ёй мы разважаем пра славу Езуса Хрыста; у гонар перамогі хрысціянаў у бітве пад Лепанта ў 1571 годзе.

Узнагароду за правільныя адказы атрымае **Аляксей Томкавіч** з Вілейкі.




**Разгадка рэбуса:** Марыя

**«Матэматыка» Марыйных святаў**
24, 17, 20, 16, 16, 21.

**Для кемлівых**

Сякера, Кніга прарока Ісаі, кій, плуг, ключ, пярсцёнак, ручнік, веялка, сетка, свечка, пасудзіна, блюда, іголка, келіх, лампада, серп, карма, алябастр, меч, жалейка.

**Крыжаванка**: пчаляр.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

# Крыжаванкі

## Ці ведаеш?

Бэтлеем у перакладзе з грэцкай мовы азначае «дом хлеба».

У той час, калі там нарадзіўся Езус, гэта было невялікае мястэчка. У ім жыло ўсяго толькі тысяча чалавек. Бэтлеем знаходзіўся за 8 кіламетраў ад вялікага і ганарыстага Ерузалема.

А Бэтлеем называлі яшчэ «горадам Давідавым», бо ў ім нарадзіўся найвялікшы кароль Ізраэля Давід, які менавіта ў Бэтлееме быў памазаны на караля.




А цяпер пытанні-заданні:

* Ці ведаеш ты, хто памазаў Давіда на караля Ізраэля?
* Ці ведаеш, кім працаваў кароль Давід да таго, як стаў каралём?
* Ці ведаеш, які талент меў кароль Давід?

Ну а калі не ведаеш, то не грэх жа й запытаць у таго, хто ведае. Запытаць, а потым і нам напісаць. Чакаем!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*




## РЭБУС

Разгадаўшы гэты рэбус, ты прачытаеш чароўнае слова. Ты часта ім карыстаешся?



~~І К~~



~~А Р~~




## А з табой так бывае?










20
21

# Прыгоды ксяндза Лявона

## Адмена!

Ксёндз Лявон заканчваў пакаваць трэцюю валізу, калі ў дзверы пастукалі. Хто там гэткай парой? Здарылася дзе што? Паспяшаўся да дзвярэй, а ў галаве мільганула брыдкае: «Што б там ні было, а гэта ўжо не цябе тычыцца». Але дзверы адчыніў і знямеў – за парогам стаялі заснежаныя, расчырванелыя цётка Тафіля, дзядзька Антось, Гэлена з Закрэўшчыны ды спадар Андрэй Рубяжэвіч. Што за стракатая кампанія? Усе вясёлыя, нібы чарку якую дзе прапусцілі. Запытаў у неспадзяваных гасцей, а тыя наперабой: якая, маўляў, чарка – Адвэнт жа!

– Дык што здарылася? – амаль выкрыкнуў ксёндз Лявон. – Бачу, бяды хіба што няма, бо вясёлыя вы нейкія, а я то не маю часу раздзяліць вашу весялосць, бо заняты.

– А чым заняты? – бліснула гарэзнымі, нейкімі быццам памаладзелымі вачыма цётка Тафіля.

– Валізы збіраю – ведаеце ж. Заўтра машына зранку прыедзе па рэчы.

Ксяндза Лявона пераводзяць у іншую парафію. Як кажуць, сталася! Гаварыць пра такое – соль сабе на раны сыпаць. Ды й парафіянам таксама: тыдзень ужо ходзяць, нібы ў ваду апушчаныя. Толькі ў гэтых нейкая прыемнасць сталася.

– Распакоўвай, ксёндз, свае валізы – біскуп даў задні ход! – гукнуў пераможна дзядзька Антось. – Уламалі-ткі мы яго!

– Што–о–о?!

– Тое, што чуеш! – засмяялася цётка Тафіля. – Ды не перажывай, мы з ім палюбоўна гаманілі, растлумачылі ўсё, і ён прыняўся нашым дзелам.

– А Гарадок? Туды ж святар патрэбны!

Цётка Тафіля засмяялася.

– Знайшоўся і туды чалавек – не бядуй, ксёндз! Як добра пашукаеш – дык і знойдзецца.

Усе дружна пасмяяліся, і ксёндз Лявон адчуў, як з ягонай душы нібы зваліўся цяжкі груз, што прыгнятаў яго ўжо з тыдзень. Збіраў рэчы, пакаваў свае валізы, а ў самога так скрэблі кошкі на душы – хоць сядзь ты сярод гэтых валізаў ды горка так заплач.

– Ну што, шаноўныя «дэлегаты», – прамовіў спадар Андрэй, – паедзем, развязу вас па хатах, ды й самому трэба неяк з'явіцца дадому.

– Бо заўтра ж Рараты! – гукнула цётка Тафіля. – Во радаснае сёлета свята ў нас будзе! Нібы ўсе наноў народзімся!

Прыгоду запісала І. Ж.







# Галерэйка



Благаслаўлёная Маці Тэрэза з Калькуты, якая бачыць у кожным Езуса і клапоціцца пра бяздомных.
Каця Грышан, 11 гадоў,
Дзіяна Бруева, 12 гадоў.



Святы Максімільян Марыя Кольбэ, як Езус, аддаў жыццё за чалавека, у якога была сям'я.
Таня Буко, 11 гадоў.



Святая Тэрэзка ад Дзіцяткі Езуса, як і Езус, любіць святароў і моліцца за іх.
Вераніка Хахлова, 9 гадоў,
Ксюша Прусакова, 9 гадоў,
Вара Якаўлева, 7 гадоў,
Маша Ціханенка, 7 гадоў.



Святы Францішак, як Езус, стаўся ўбогім і сябруе з людзьмі і жывёламі.
Даша Паўлюкевіч, 9 гадоў,
Арына Пятроўская,
10 гадоў.



Святы Крыштаф, як Езус, дапамагае ў дарозе.
Ціхан Пятроўскі, 6 гадоў.




Наш біскуп Алег Буткевіч – як Езус – добры пастыр.
Юля Грышан, 9 гадоў.



У афармленні матэрыялаў нумара прымалі ўдзел юныя мастакі з ДУА «Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка» (майстэрня Г. Хінкі-Янушкевіч).

*Малюнак Марыны Рудчык.*